**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.20, 20.52, 15.32;
Віцебск — 5.05, 20.48, 15.43;
Магілёў — 5.09, 20.42, 15.33;
Гомель — 5.10, 20.35, 15.25;
Гродна — 5.34, 21.08, 15.34;
Брэст — 5.43, 21.01, 15.18.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 9 мая

**ІМЯНІНЫ:**
Марка, Сільвестра;
Віктара, Станіслава





# ЗВЯЗДА

8 МАЯ 1992 г. пятніца, № 90 (21868)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

# УСЁ ЗМЯШАЛАСЯ Ў НАШЫХ СЭРЦАХ: РАДАСЦЬ І ГОРЫЧ, УДЗЯЧНАСЦЬ І ВІНА, РОСПАЧ І НАДЗЕЯ...

## А ЗОРКІ ЗАСТАЮЦЦА...

Мяняецца мода. Мяняюцца кіраўнікі ўсіх рангаў. Мяняцца можа, як аказваецца, нават дзяржаўны лад.

Мяняюцца разам з усім і святы. Ужо, здаецца, замена адбылася па ўсіх святочных пунктах. Засталіся Новы год, 8 Сакавіка і Дзень Перамогі. Хоць, напрыклад, у Прыбалтыцы апошні за свята цяпер не лічаць. Сцяг у маі 1945 года над рэйхстагам быў чырвоны... А ён сёння не ў пашане, гэты колер. Але пры чым тут Перамога? Вялікая, нягледзячы ні на што.

Мне не падабаюцца некаторыя выступленні нашых дэпутатаў-ветэранаў на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Хочацца далучыцца да меркавання, што таталітарным мысленнем папахвае... Але, пры ўсім тым, хочацца адначасова самому сабе запярэчыць: гэтыя людзі ўратавалі ўсім нам жыццё і свабоду. І мне, і маім бацькам, і Станіславу Шушкевічу, і Зянону Пазьняку таксама. Усё ж такі не вельмі хочацца ўяўляць нават самым дэмакратычным і радыкальным сябе батракамі на полі якога-небудзь нямецкага барона.

Усё правільна, гісторыя пайшла далей. І трэба пераасэнсоўваць яе ўрокі, вяртацца на больш-менш цывілізаванае месца ў гэтым свеце. Але няўжо наша Перамога не была Перамогай цывілізацыі?

Цяпер нашы ветэраны сустракаюцца з іхнімі, нямецкімі, паціскаюць адзін аднаму рукі і вітаюць новыя адносіны паміж Германіяй і былым Савецкім Саюзам. І гэта добра. Вось толькі пры гэтым нейкія непераможныя атрымліваюцца ў нашых былых салдат Вялікай Айчыннай усмешкі.

Старая выкладчыца журфака універсітэта неяк сказала мне, што пасля Перамогі ўвесь час хацелася ўсміхацца. Вы часта сустракалі ў апошнія гады ветэрана, які б усміхаўся жыццю?

Вядома, цяпер не да ўсмешак. Ёсць людзі, якія і гэта свята праводзяць на могілках. Гэта маці загінуўшых у Афганістане —хто таксама выканаў свой абавязак перад Радзімай да канца.

Але ўсё роўна гэта свята. Свята мужчынскага пачатку. Таго самага, які спрадвечна абараняў свой дом, сваю сям'ю і Айчыну ад чужынцаў. Сыну Марыі Прохараўны Шайко, афганцу, прапаноўвалі даслужваць ужо ў Саюзе пасля двух раненняў. Ён адмовіўся. Гэта не лічылася за мужчынскі гонар — валакіціць з уласнай воінскай службай.

Цяпер шмат можна размаўляць і спрачацца пра парадкі ў нашай арміі, але воінскі абавязак быў і, упэўнены, застанецца ганаровым абавязкам.

Таму 9 мая—у першую чаргу павага тым, хто выканаў яго спаўна і хто даў магчымасць усім нам займацца іншымі абавязкамі і правамі.

Успамінаю, як дзед, які быў начальнікам штаба партызанскай брыгады ў гады вайны, адчытваў мяне з братам за тое, што мы напісалі крэйдай на сцяне драўлянага дома: «Паміраем, але не здаёмся», імітуючы гераізм абаронцаў Брэсцкай крэпасці. «Людзі кроў пралівалі за гэтыя словы, а вы, падшыванцы...» — лаяўся ён на нас.

Ужо праз некаторы час уласным розумам я дапяў, што ёсць у жыцці такія рэчы, над якімі недарэчна ўвогуле нейкае дзеянне, каменціраванне ці сляпое перайманне. Што ёсць святое для любога чалавека—пралітая кроў абаронцаў яго Радзімы і яго дома.

У мяне да гэтага часу вісіць над ложкам партрэт майго дзеда-партызана, павялічаны з малой ваеннай фотакарткі. Я яго папрасіў зрабіць каляровым, таму непасрэдна твар дзеда атрымаўся на фоне як бы запечанай крыві.

Звычайны ваенны партрэт таго часу. Акуратна зачэсаны прабор злева направа. Два кубікі ў пятліцах. І нейкі дужа строгі позірк чалавека, якому заўтра ў бой.

Такія партрэты ёсць амаль у кожнай беларускай сям'і. І іх становіцца ў апошнія гады ўсё больш, чым саміх людзей на гэтых пажаўцелых здымках ваенных часоў. Застаюцца ад той вайны з цягам часу такія партрэты, помнікі ды яшчэ чырвоныя зорачкі на магілах невядомых салдат. Тыя зоркі, пад якімі мы атрымалі сваю Перамогу і якія ўжо, здаецца, нічым не заменіць. Ні для тых, хто аддаў жыццё і сваю мужнасць за нашу свабоду. Ні для нас, хто яе прыняў.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

## У гонар свята вялікай Перамогі

9 мая — свята вялікай Перамогі над фашызмам. Гэта свята з'яўляецца набыткам усіх міралюбівых народаў Зямлі, у тым ліку і беларускага народа, які жыццямі мільёнаў сваіх сыноў і дачок унёс уклад у справу Перамогі. Памяць аб загінуўшых за справядлівую справу свяшчэнная для кожнага з нас.

У сувязі са святам Перамогі ў Рэспубліцы Беларусь і яе сталіцы горадзе-герої Мінску будзе праведзены шэраг урачыстых мерапрыемстваў. Упершыню будзе аб'яўлены загад міністра абароны Рэспублікі Беларусь у сувязі з Днём Перамогі. Міністр абароны генерал-лейтэнант П. П. Казлоўскі 9 мая выступіць па Рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. У 22 гадзіны неба Мінска і крэпасці-героя Брэста азораць святочныя феерверкі.

8 мая ў 19.00 у Доме афіцэраў г. Мінска пройдзе ўрачысты вечар. 9 мая ў 10.00 на плошчы Перамогі, кургане Славы, ля абеліска «Горад-герой Мінск», на мемарыяльным комплексе «Хатынь», у гарадах і населеных пунктах рэспублікі да помнікаў і абеліскаў загінуўшых у гады вайны будуць ускладзены вянкі. Ва ўскладанні вянкоў прымуць удзел кіраўнікі рэспублікі, Міністэрства абароны, прадстаўнікі Савета ветэранаў вайны і працы, грамадскіх і рэлігійных арганізацый.

9 мая адбудуцца праходжанне ваенных аркестраў па вуліцах Мінска, іх выступленні ў парках і на плошчах горада. Ансамбль песні і танца БВА, іншыя самадзейныя творчыя калектывы выступяць са святочнымі праграмамі.

У дні свята Перамогі воінскія гарнізоны і часці будуць адкрыты для наведвання сваякамі ваеннаслужачых, ветэранамі вайны, прадстаўнікамі грамадскасці.

**Прэс-цэнтр МА РБ. (БЕЛТА).**

## Загад
### міністра абароны Рэспублікі Беларусь

*6 мая 1992 г.* № 3 *гор. Мінск.*

Таварышы салдаты, сяржанты і старшыны, прапаршчыкі, афіцэры, генералы!

Паважаныя ветэраны і партызаны Вялікай Айчыннай вайны!

Дарагія суайчыннікі!

47 гадоў прайшло з таго дня, калі пераможна завяршылася небывалая па маштабах і лютасці бітва супраць фашызму. Вялікая Айчынная вайна ўвайшла ў нашу свядомасць як найвялікшая трагедыя чалавецтва, якая прынесла незлічоныя ахвяры, пакуты і гора беларускаму народу.

Дзень Перамогі стаў сімвалам памяці, сімвалам непераможнасці і гордасці народа. Веліч яго подзвігу не гасне ў вяках.

Назаўсёды захаваецца памяць аб тых, хто адстаяў гонар, свабоду і незалежнасць Айчыны!

Цяперашняе свята Перамогі ўпершыню адзначаецца ва ўмовах незалежнасці дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Ідзе працэс станаўлення і яе ўласных Узброеных Сіл. У імя бяспекі рэспублікі асабовы састаў часцей і падраздзяленняў прыкладае свае духоўныя і фізічныя сілы ў павышэнні баявой гатоўнасці і баявой вывучкі. Воіны, верныя беларускаму народу, штодзённа праяўляюць самаадданасць, стойкасць і вытрымку.

Сардэчна віншую асабовы састаў, ветэранаў і партызан Вялікай Айчыннай вайны, ветэранаў Узброеных Сіл са святам — Днём Перамогі!

Жадаю добрага здароўя, поспехаў у службе, асабістага шчасця і дабрабыту.

У азнаменаванне свята Дня Перамогі **загадваю:**

9 мая 1992 года ў 22.00 зрабіць святочны феерверк у сталіцы Рэспублікі Беларусь горадзе-герої Мінску і ў крэпасці-герої Брэсце.

Вечная слава героям, загінуўшым у баях за свабоду і незалежнасць нашай Айчыны.

Няхай жыве гераічны народ незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант П. КАЗЛОЎСКІ.**

## У Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову, у якой тарыфная стаўка першага разраду для сеткі рабочых і служачых народнай гаспадаркі з 1 мая 1992 г. устаноўлена 1.050 рублёў, вызначаны памеры дапамогі на дзяцей, іншыя меры па сацыяльнай абароне насельніцтва. Тэкст пастановы будзе надрукаваны ў бліжэйшым нумары газеты.

## Уручэнне вярыцельных грамат



7 мая Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Тансу Акандан уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу.

Тансу Акандан нарадзіўся 17 ліпеня 1942 г. у Стамбуле. У 1965 годзе скончыў Анкарскі універсітэт. З 1968 па 1970 г. быў трэцім сакратаром у Міністэрстве замежных спраў, з 1970 г. — консул у Антверпене, з 1973 г. — першы сакратар пасольства ў Кувейце. Затым, з 1975 года працаваў у цэнтральным апараце Міністэрства замежных спраў. У 1977—1981 гг. — саветнік пасольства ў Вашынгтоне, з 1981 г. зноў у МЗС, у 1983—1987 гг. — саветнік пасольства ў Рыме. Затым работа ў МЗС, з 1988 па 1989 г. на пасадзе намесніка генеральнага дырэктара ЕЭС. Жанаты.



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Джанлука Берцінета ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу.

Джанлука Берцінета нарадзіўся 3 студзеня 1941 г. у Ферара. У 1964 г. закончыў юрыдычны факультэт Пізанскага універсітэта. У 1967 г. прыняты на дыпламатычную службу. Са студзеня 1968 г. працаваў у Галоўным упраўленні персаналу, затым аташэ місіі. Са снежня 1968 г. — у асабовым Сакратарыяце намесніка міністра. З 1969 г. — другі сакратар у Пастаянным прадстаўніцтве Італіі ў Арганізацыі па эканамічнаму супрацоўніцтву і развіццю (АЭСР) у Парыжы. З 1970 г. — сакратар місіі. З 1972 г. — першы сакратар місіі. З 1972 г. — першы гандлёвы сакратар у Пекіне. З 1975 г. — першы сакратар у Вашынгтоне, з 1977 г. — саветнік. З 1982 г. — выконваючы абавязкі загадчыка IV аддзела Галоўнага ўпраўлення па эміграцыі і сацыяльных справах. З 1983 г. — першы саветнік па эміграцыі і сацыяльных справах у Пастаянным прадстаўніцтве Італіі ў ЕЭС у Бруселі, затым першы саветнік па друку і інфармацыі таго ж прадстаўніцтва. З 1989 г. загадчык III аддзела Галоўнага ўпраўлення па супрацоўніцтву ў развіцці. З 1990 г. — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасланнік II класа, з 1991 г. — у прамым падпарадкаванні генеральнага дырэктара па супрацоўніцтву ў развіцці.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб унясенні змянення ў Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Частку другую пункта I Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» выкласці ў наступнай рэдакцыі:

Абзац 7 артыкула 34 у частцы ўстанаўлення сярэдняй стаўкі заработнай платы педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу вышэйшых навучальных устаноў, а таксама частку I артыкула 37 увесці ў дзеянне з 1 верасня 1992 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 красавіка 1992 г. г. Мінск.





## Вітамінны алфавіт А

**Раслінаводы-аматары зараз вырошчваюць на сваіх участках разнастайныя плады, ягады, агародніну. Кожнаму, вядома, цікава ведаць, якія карысныя рэчывы, у прыватнасці вітаміны, утрымліваюцца ў тых ці іншых пладах, агародніне, як яны ўплываюць на здароўе чалавека.**

**Пачынаем публікацыю вітаміннага алфавіта з вітаміну А (рэцінол).**

Гэта вітамін росту. Ён утрымліваецца як у прадуктах жывёльнага паходжання —рыбным тлушчы, масле, печані, яечным жаўтку, так і ў раслiннай прадукцыі — правітамін (карацін), з якога ў арганізме ўтвараецца вітамін А. Карацiну шмат у моркве, пятрушцы, шчаўі, зялёнай цыбулі, таматах, зялёным гарошку, суніцах, ягадах абляпіхі, чырвоным перцы, шыпшыне, рабіне, капусце, салаце, гарбузах. Сутачная патрэбнасць 2 мг (або 4—5 мг карацiну). Пры нястачы вітаміну А зацягваецца рост касцей і ўсяго арганізма, зніжаецца яго супраціўляльнасць прастудным і інфекцыйным захворванням, пагаршаецца актыўнасць пагацытаў. Можа ўзнікаць змрочная («курыная») слепата, парушацца набыццё зрокавага пурпуру,



а таксама магчымы захворванні вачэй, аслабленне зроку. Адсутнасць ці нястача ў харчаванні вітаміну А вядзе да парушэння абмену рэчываў, знясільвання, нервовага расстройства, выпадзення валасоў, захворвання слізістых абалонак поласці роту, вуснаў. Паколькі вітамін А тлушчарастваральны, для лепшага яго засваення неабходна дабаўляць у стравы з агародніны масла, алей або смятану.

**Падрыхтавана па публікацыях у друку прафесараў Л. ВІГОРАВА і Н. ПАЛЯКОВА.**

## Чым багаты боб?

Гэта непатрабавальная расліна дае ўраджай без асаблівага догляду. Вытрымлівае замаразкі да —4°С. Любіць вільгаць.

На градцы боб сеюць радкамі з міжрадкоўем у 45 см. Праз паўтара-два месяцы пасля з'яўлення ўсходаў паспявае зялёны боб. Насенне ў залежнасці ад сорту паспявае праз 90—130 дзён. Найбольш распаўсюджаны сарты «рускі чорны», «беларускі», «віндзорскі зялёны» і «віндзорскі белы».

Зялёны боб ужываюць у салаты. Яго карысна ўжываць пры хваробах печані, нырак, кішэчніка.

Спецыялісты лічаць, што салаты з зялёнага бобу садзейнічаюць паніжэнню глюкозы ў крыві пры цукровым дыябеце. У зялёным бобе мала вугляводаў, яны ўтрымліваюць правітамін А, вітаміны групы В, РР, С, мікраэлементы. Дзякуючы гэтым якасцям боб у малочнай спеласці карысны дыябетыкам.

Спелае зерне бобу вызначаецца ад іншай гародніны і злакаў высокім утрыманнем бялку лігуміну. Каштоўнае тое, што да 70 працэнтаў гэтага бялку засвойваецца арганізмам. Але стравы з бобу не лічацца дыетычнымі па той прычыне, што затрымліваюцца ў страўніку звыш 4 гадзін і выклікаюць лішняе браджэнне ў кішэчніку. Асабліва непажадана ўжыванне ў ежу спелага бобу пры сардэчна-сасудзістых захворваннях, калітах, хваробах страўніка, падстраўнікавай залозы, жоўцевага пухіра. З асцярогай трэба ўжываць у ежу спелы боб людзям пажылога ўзросту.



## Як падоўжыць дзіцячы ложачак

**Расце дзіця. Вось і ложачак стаў яму кароткім. Як прадоўжыць тэрмін яго службы?**

У спінцы, звернутай да ног, выпільваюць усе вертыкальныя палачкі, затым выразаюць ліст клеенай фанеры таўшчынёй 6—12 міліметраў (па шырыні праёму спінкі), даўжынёй 150—160 сантыметраў і ўкладваюць яго на падматрацную рамку. Фанеру закрываюць матрацам, а на тую частку, якая выступае, кладуць спецыяльна пашыты матрац. Каб не звальваўся, яго прывязваюць да фанеры, у якой прасвідроўваюць спецыяльную адтуліну. Фанеру трэба трывала прымацаваць тасёмкамі або рамнямі да верхняга бруска спінкі (як на мал. Б).

Другі спосаб больш складаны, але затое дазваляе захаваць першапачатковы выгляд ложачка. У спінцы ложачка на петлях прыстасоўваецца рашотка, якая займае вертыкальнае становішча і фіксуецца двума штыркамі (мал. А), калі ложачкам не карыстаюцца, і замацоўваецца ў гарызантальным становішчы (мал. Б) трывалымі тасёмкамі, калі дзіця кладзецца спаць. Рашотка робіцца з палачак, выразаных са спінкі і двух брускоў сячэннем 22×28 міліметраў. Палачкі падразаюцца на 15 міліметраў і прыводзяцца да адной дакладнай даўжыні. У брусках на роўнай адлегласці прасвідроўваюць гнёзды па дыяметру палачак глыбінёй у 15 міліметраў. Прымацоўваючы рашотку да сярэдняга бруска спінкі ложачка, яго ніжні брусок з абодвух бакоў укарочваецца на 50 міліметраў, каб сюды магла змясціцца падматрацная рамка (мал. К).

Рашотку можна замяніць шчытком з клеенай фанеры або драўнінна-валакністай пліты таўшчынёй 6,8 або 10 міліметраў. Для мацавання петляў да такога шчыта неабходна прыклеіць і замацаваць шрубамі брусок сячэннем 20×20 міліметраў.

Колы з ложачка лепш зняць, а каб ён быў устойлівым, пад стойкі пакласці падкладкі.

У апошні час сталі выпускацца ложачкі і іншага тыпу — спінкі ў іх выраблены з цэлага драўлянага шчыта. Каб падоўжыць такі ложачак, прыйдзецца зрабіць «акно» ў адной са спінак. Для ўводу пілы прасвідроўваюць з кожнага боку контуру некалькі побач размешчаных адтулін. Краі старанна зачышчаюць і замацоўваюць адкідны шчыток.









*Родная мова, гісторыя, культура— неад'емная частка нашага самаўсведамлення*

# БЕЛАРУШЧЫНА

СВОЙ ПОГЛЯД

## Мэрыя ці магістрат?

**Не так даўно давялося прысутнічаць на прэс-канферэнцыі ў Мінгарвыканкоме. Ішла размова пра рэфармаванне гарадскога Савета, пра стварэнне малога Савета. Закранался і тэма далейшай перспектывы, у прыватнасці, магчымасць увядзення мэрыі і пасады мэра ў сталіцы.**

Цікава, што праводзіў сустрэчу з прэсай не нейкі «камуністычны ветэран», а сябра адной з дэмакратычных партый. Неяк заўсёды лічыў, што менавіта гэтыя людзі не толькі добра размаўляюць па-беларуску, але і па-сапраўднаму дбаюць пра Беларусь. Але вельмі здзівіўся, калі гэты чалавек пачаў весці размову менавіта пра мэрыі і мэраў.

Вось тады і закралася ў галаву думка: а ці ведаюць нашыя выбраннікі з Мінгарвыканкома пра тое, што наш горад меў (чаму толькі меў — мае!) Магдэбургскае права, 500-годдзе якога ў 1999 годзе будзем святкаваць? Напэўна, усё ж ведаюць.

Дык чаму ж размова, услед за расійскімі «рэфарматарамі», вядзецца пра мэрыі і мэраў? Варта прыгадаць, што на Беларусі, у гарадах, якія мелі Магдэбургскае права, былі магістраты. Гэта засведчана ў Статуце ВКЛ 1588 года!

У нас неяк прывыклі здзекліва ставіцца да кансерватызму. Але менавіта кансерватызм — аснова еўрапейскасці. Прыклад Германіі, Францыі, Англіі сведчыць пра яго жыццяздольнасць. І таму ў нас, на Беларусі, неабходна пайсці менавіта кансерватыўным шляхам — адрадзіць усе структуры нашай дзяржаўнасці — Сойм, соймікі, рады, адміністрацыйны падзел, талер, магістраты.

Менавіта тады наша дзяржаўнасць набудзе сваё гістарычна адметнае аблічча. І магістраты ў беларускіх гарадах былі б не толькі аднаўленнем яшчэ адной нашай спрадвечнай дзяржаўнай структуры, але і нагадвалі б нашчадкам пра шматвяковую гісторыю, калі не толькі наша сталіца мела Магдэбургскае права.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**

ТРАДЫЦЫІ І ЛЮДЗІ





## Радаўніца на Залатой гары





**«Ваша Высокапраасвяшчэнства! Просім благаславіць правядзенне памінальнага набажэнства з хрэсным ходам на Радаўніцу ў Сталавіцкім прыходзе ў сувязі з Вялікаднем памёршых... на зняважаных вайсковых пахаваннях Паўночнай і Першай сусветнай войнаў.., а таксама на прыходскіх зруйнаваных могілках былога праваслаўнага прыхода між вёсак Загор'е, Дуброўна, Сачыўкі...»**

Гэта радкі з пісьма Міністэрства культуры і Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх пакутнікаў пры Мінскім Свята-Петрапаўлаўскім саборы ў Беларускую праваслаўную царкву, на якім мітрапаліт Філарэт зрабіў кароткую, ёмістую рэзалюцыю: «Бог благаславіць святыя намеры Брацтва».

Радаўніца... Свята, якое ніколі не забывалася на Беларусі, якое цесна перапляплося ў смутку аб страчаным і, адначасова, у радасці за працяг жыцця, сувязь пакаленняў — жывых і памёршых. Сёлета яно ўпершыню святкавалася як «афіцыяльна дазволенае», як дзяржаўнае свята. Людзі ўшаноўвалі памяць сваіх продкаў без боязі «быть неверно понятыми», паступова пазбаўляючыся ад путаў даўно ўжо матэрыялізаванай і ўкаранелай «коммунистической пропаганды и агитации».

Паміналі і тут, на могілках, раней яшчэ прыбраных і добраўпарадкаваных, — у Сталавічах, дзе былі людзі з Загор'я, Сачывак, Уласаў, Таршычаў і Судараў—з самага ранку, як гэта здаўна заведзена ў нашым краі, з абрусамі, стравамі і кветкамі.

А там, на Залатой гары, чамусьці спатрэбілася благаславенне?

Цягнулі дарогу Мінск — Брэст, так званую «алімпійку», бо будоўля была прымеркавана да Алімпійскіх гульняў у Маскве. А побач з трасай ціха туліліся могліцы, старыя, на іх ужо не хавалі: на Залатой гары — шведы і рускія, праз дарогу, дзе стаяла Загорская царква (таксама разабраная і вывезеная ў Каўпініцу, дзе потым згарэла), яшчэ адны, дзе пераважна хавалі святароў, а недалёка і вайсковыя пахаванні часоў Паўночнай і Першай сусветнай войнаў, дзе побач з праваслаўнымі ляжалі каталікі, пратэстанты — немцы і шведы...

Ляжалі, спачывалі, але...

Менавіта адсюль, з могліц, па загаду «зверху» сталі браць жвір на «алімпійку», пераважна на ўчастак ад Дуброўны да Уласава. Жвір разам з чалавечымі касцямі і чарапамі! На адрэзку, на якім, паводле сведчання жыхароў вёсак, няма года без аўтакатастроф (на чужых касцях шчасця не будуюць!)

У маі 1983 года, як знак ад Бога, на гэтым знявечаным месцы была знойдзена ікона Пакрава Багародзіцы са Святымі Анёламі, Прарокамі і Апосталамі «за гаротных молячыхся і з гора іх выбаўляючых».

А таму з першых жа крокаў, звязаных з правядзеннем хрэснага ходу да зруйнаваных магіл, вышэйпамянёныя арганізатары сутыкнуліся з зацятым процістаяннем мясцовых «кесараў», асабліва тых, у якіх, як кажуць у народзе, «у вушах вішчыць».

За два дні да Радаўніцы ікона знаходзілася ў Сталавіцкай царкве, напярэдадні — на малебне ў Жыровіцкім манастыры. А 5 мая хрэсным ходам ад навакольных вёсак, з харугвамі, з удзелам трох свяшчэннікаў, дыякана і паслушнікаў Мінскай духоўнай семінарыі, хору семінарыстаў і хору Беларускага праваслаўнага брацтва была дастаўлена да месцаў былых пахаванняў.

Цяжка перадаць словамі працэс хрэснага ходу: сотні людзей з навакольных вёсак, з царкоўнымі спевамі ішлі праз вёску, а пасля па свежапасеяным полі, з якога паўсюдна, як крык аб літасці і чалавечай спагадзе, тырчалі чалавечыя косці і чарапы.

Яшчэ па дарозе старэйшы жыхар вёскі Загор'е дзевяностагадовы Мікалай Ключко расказаў пра тое, як стараўся былы старшыня калгаса «Новый путь» Баранавіцкага раёна «давесці да канца» распачатую справу па руйнаванню магіл. Не паслухаліся яго трактарысты, дык назаўтра прывёз ім старшыня тры літры гарэлкі. Сказаў: давайце, хлопцы, вып'ем, а пасля, калі ўжо выпілі...

На спантанным мітынгу, які адбыўся адразу пасля набажэнства, пісьменніца Ніна Загорская, ураджэнка гэтых мясцін, старшыня Беларускага праваслаўнага брацтва Мікола Матрунчык, многія вяскоўцы казалі словы аб вялікай патрэбе гаіць раны, нанесеныя зямлі беларускай, памяці людской і гісторыі нашага народа, свята шанаваць памяць аб продках. Тут жа прысутныя пастанавілі збіраць грошы на пабудову капліцы (ці царквы), а ікону Пакрава Багародзіцы часова перадаць у Мінскі Свята-Петрапаўлаўскі сабор...

Потым, па дарозе ў Мінск, думалася, колькі яшчэ ў Беларусі такіх зняважаных людской чэрствасцю і бяспамяцтвам Залатых гор? Ці застрахаваны мы ад такога ж варварства ў будучым? І што яшчэ трэба зрабіць, каб загладзіць нашу віну перад светлай памяццю нашых прашчураў?

**Уладзімір МАМОНЬКА.**
**Фота Уладзіміра КРУКА.**

ВЕХІ ГІСТОРЫІ

## ПЕРШЫ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ: ХТО ВІНАВАТЫ?

**Сёлета спаўняецца 220 гадоў з часу далучэння часткі Беларусі да Расійскай імперыі. У савецкай гістарыяграфіі далучэнне ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай называлася «ўз'яднаннем з Расіяй», у адрозненне ад дарэвалюцыйнай — якая лічыла, што наша тэрыторыя была гвалтоўна далучана да яе ў выніку трох руска-польскіх войнаў.**

Рэч Паспалітая складалася з дзвюх аўтаномных частак: Польшчы (або Кароны) і Вялікага княства Літоўскага (або Літвы). На чале дзяржавы знаходзіўся кароль польскі, ён жа Вялікі князь Літоўскі. У XVIII ст. з дзяржаўнасцю Вялікага княства Літоўскага, у састаў якога ўваходзіла тэрыторыя, на якой жыў беларускі этнас, адбывалася тое, што, напрыклад, было з Беларускай рэспублікай у саставе Савецкага Саюза. За доўгія гады сумеснага існавання ў адной дзяржаве больш развітая і моцная частка паглынала слабую. Усё часцей «Рэч Паспалітую абодвух народаў» у другой палавіне XVIII ст. называлі «Рэч Паспалітая Польская», або Польшча. І 3 мая 1791 г. новая Канстытуцыя абвясціла аб ліквідацыі аўтаноміі Вялікага княства Літоўскага і ўтварэнні унітарнай дзяржавы.

Магнацтва рэспублікі было нешматлікае, але магутнае па свайму багаццю, уплыву, сваяцкіх сувязях з іншаземнымі фаміліямі, мела ў сваіх дварах уласныя войскі і карысталася дзяржаўнымі правамі. Анархіі магнацтва асабліва садзейнічала праўленне каралёў з саксонскай дынастыі — Аўгуста II і Аўгуста III. Права свабоднай забароны («liberum veto») лічылася адным з найважнейшых правоў шляхты ў Рэчы Паспалітай. Кожны шляхціц мог удзельнічаць у выбранні караля і адным голасам мог сарваць пасяджэнне сейма або адмяніць яго рашэнне. У той жа час існавала і прыказка: «Шляхціц на агародзе роўны ваяводзе». Для дасягнення сваіх мэт шляхта аб'ядноўвалася ва ўзброеныя саюзы, т. зв. канфедэрацыі. «Залатая вольнасць» шляхты абарочвалася самавольствам, беспарадкам, анархіяй.

Ужо з пачатку XVIII ст. Расія, Аўстрыя, Францыя і Прусія ўсё часцей умешваліся ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. І калі ў лютым 1763 г. у Пецярбургу атрымалі паведамленне аб цяжкай хваробе Аўгуста III, то пры двары адбылася нарада пяці саноўнікаў: графа М. Варанцова, князя А. Галіцына, графа Н. Паніна, графа А. Бястужава-Руміна і князя М. Валконскага, на якой было вырашана садзейнічаць выбранню караля з палякаў і падрыхтаваць для гэтага каля мільёна рублёў і корпус войскаў у 30 тысяч. Кацярына II прапанавала кандыдатаў: літоўскага стольніка графа Станіслава Аўгуста Панятоўскага або князя Адама Чартарыйскага. Калі неўзабаве кароль Аўгуст III памёр, магнаты Вялікага княства Літоўскага ўсур'ёз счапіліся ў барацьбе за трон. Самую ўплывовую з груповак (або, як яе называлі,— «фамілія»)— Чартарыйскіх, узначальвалі браты Міхаіл Чартарыйскі, вялікі канцлер Літоўскі, і Аўгуст, ваявода рускі. Групоўку Патоцкіх—кіеўскі ваявода Патоцкі і віленскі ваявода князь Караль Радзівіл (вядомы пад мянушкай «Пане Каханку»); Масальскіх — браты: літоўскі гетман і віленскі епіскап; лідэрам саксонскай быў каронны гетман Браніцкі. Чартарыйскія шукалі дапамогі і падтрымкі ў Расіі, Патоцкія — у Францыі і Прусіі. У 1764 г. у Вялікім княстве Літоўскім была створана генеральная канфедэрацыя, якая выступіла супраць Радзівіла. Войскі княства, сумесна з рускімі, занялі крэпасці Нясвіж і Слуцк. Войска Радзівіла было разбіта, а сам ён уцёк за мяжу. На выбарчым сейме 1764 г. на трон узводзіцца прадстаўнік Чартарыйскіх Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Расія і Прусія выставілі праект ураўноўвання правоў дысідэнтаў (жыхароў рэспублікі некаталіцкага веравызнання) з католікамі, але сейм адхіліў яго. Пры дапамозе рускага пасла князя М. В. Рапніна ствараюцца дысідэнцкія канфедэрацыі: праваслаўная ў Слуцку (узначальваў граф Грабоўскі), пратэстанцкая ў Торуні (граф фон Гольц). Пад кіраўніцтвам князя К. Радзівіла, якому было дазволена вярнуцца з-за мяжы, у Радаме стварылася канфедэрацыя з католікаў, схільных да саюзу з Расіяй. На падмогу канфедэратам прыбыла 40-тысячная руская армія. Сейм 1768 г. згадзіўся ўраўнаваць правы дысідэнтаў. Ім дазвалялася займаць дзяржаўныя пасады, браць шлюб з католікамі. Расія ж гарантавала «кардынальныя правы», прынятыя сеймам, якія захоўвалі «liberum veto», выбарнасць караля, шляхецкія прывілеі.

Праціўнікі Расіі ў 1768 г. у Бары (Украіна) арганізавалі канфедэрацыю, якую ўзначаліў Юзаф Пулаўскі. Яны звярнуліся за дапамогай да Турцыі і Францыі, і апошняя пераканала Турцыю пачаць вайну супраць Расіі. Гайдамакі і запарожскія казакі на Украіне паднялі супраць канфедэрацыі паўстанне, т. зв. Калііўшчыну. Частка беларускай шляхты падтрымала барскіх канфедэратаў. У раёне Мядзеля, Радашковіч, Мінска дзейнічаў атрад Шымана Касакоўскага, які затым быў разбіты пад Навагрудкам. У 1771 г. літоўскі гетман Міхал Агінскі падпісаў у Пінску акт аб сваім далучэнні да канфедэрацыі і напаў на рускі батальён палкоўніка Албучава, на дапамогу якому пайшоў А. В. Сувораў. Агінскі быў разбіты пад Сталовічамі. У 1772 г. таксама былі разбіты атрады Зарэмбы і Пулаўскага і рэшткі канфедэратаў былі выціснуты прускімі войскамі з тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

Прускі і аўстрыйскі ўрады, гэтак жа, як і Расія, загадзя мелі праекты падзелу Рэчы Паспалітай. Князь Каўніц такі праект прапанаваў у 1768, а кароль прускі Фрыдрых II — у 1769 г. Але канвенцыя паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй аб падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай была падпісана толькі 5 жніўня 1772 г. у Пецярбургу. Да Расіі адышлі Інфлянцкае, большая частка Полацкага (па правым беразе Заходняй Дзвіны), амаль усё Віцебскае, Мсціслаўскае ваяводствы і ўсходняя частка Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства (з Рагачовам, Прапойскам, Чачэрскам і Гомелем).

Уладальнікі маёнткаў, якія адышлі да Расіі, павінны былі прысягнуць ёй на вернасць. Калі гэтага не адбывалася, то іх землі пераходзілі ў казну. Напрыклад, Кацярына II падаравала княгіні К. Дашковай, муж якой загінуў у час кампаніі 1764 г., камандуючы атрадам, пасланым на дапамогу Чартарыйскім, мястэчка Круглае і вёскі, што раней належалі гетману Міхалу Агінскаму. Калі адносіны былі добрыя, то маёнткі заставаліся ўладальнікам або прадаваліся. Так, князь Р. Пацёмкін купіў у Вялікага літоўскага канцлера А. Сапегі Дубровенскае графства за 5 млн. 800 тыс. злотых, а Быхаўскае заставалася ў Сапегаў да 1831 г. Казённыя землі імператрыца раздорвала: князю Пацёмкіну — Крычаўскае староства, графу П. Румянцаву-Задунайскаму — Гомельскае і г. д. У 1780 г. Кацярына II наведала беларускія губерні. У пісьме да Вялікага князя Паўла і яго жонкі яна паведамляла, што «на 18-й вярсце ўехала ў Беларусію. Тут насельніцтва самае разнароднае, паўсюдна побач пражываюць праваслаўныя, каталікі, уніяты, яўрэі, рускія, палякі, чухонцы, немцы, курляндцы, словам, не ўбачыш двух сялян, якія былі б аднолькава апрануты і размаўлялі правільна на адной мове, мешаніна плямён і моў нагадвае Вавілонскае стоўпатварэнне».

Пры падзеле Рэчы Паспалітай было забыта міжнароднае права — не выстаўляць ва ўзаемаадносінах паміж дзяржавамі прэтэнзій, якія не маюць пад сабой падстаў або даўно страцілі сваё значэнне. Але калі ў дэкларацыях 1763 і 1764 г.г. Кацярына II запэўнівала ў сваіх імкненнях «захаваць Рэч Паспалітую ў цяперашнім яе стане, у правах, вольнасцях і асновах, таксама як і ў граніцах», то затым лічылася, што далучаюцца «землі, якія здаўна Расіі належалі», «гарады рускімі князямі створаныя, і народы агульнага з расіянамі паходжання і ім аднаверныя». Паслы Прусіі і Аўстрыі ў 1764 г. у Варшаве заяўлялі, што іх манархі абураны чуткамі аб падзелах Польшчы і Літвы. Праз некалькі гадоў Аўстрыя ўспомніла, што ў XIII—XIV ст. ст. княствы Галіцкае і Уладзіміра-Валынскае належалі Венгрыі, а Прусія аб'явіла сябе спадкаемцай ордэна крыжаносцаў, прэтэндуючы на Усходнюю Прусію. Акупацыя тэрыторыі пачалася яшчэ да падпісання дакументаў аб падзеле.

Сярод многіх прычын гэтых падзей як эканамічнага, так і палітычнага характару можна адзначыць дзве. У першым, як, зрэшты і двух іншых падзелах вінаватыя кансерватыўныя магнацкія вярхі дзяржавы. І магнаты Вялікага княства Літоўскага нічым не адрозніваліся ад польскіх, бо былі звязаны з імі кроўным сваяцтвам. Акрамя ўладанняў у княстве, мелі землі і ў Кароне; лічылі сябе палякамі; жылі больш у Варшаве, чым у Вільні; размаўлялі і пісалі на польскай, французскай, нямецкай мовах. У пагоні за багаццем, уладай, варагуючы паміж сабой, яны звярталіся за падтрымкай (грашовай або вайсковай) да суседніх дзяржаў. Выступалі супраць рэформаў, за захаванне «залатой вольнасці» шляхты. Самы багаты чалавек Рэчы Паспалітай, нясвіжскі ардынат князь Караль Радзівіл, якому належала каля пяці тысяч вёсак, больш тысячы гарадоў і мястэчак, змагаўся супраць Расіі, аднак калі ў яго канчаліся грошы, выступаў на яе баку (як гэта было з яго удзелам у радамскай канфедэрацыі). Расія, Аўстрыя і Прусія аднолькава вінаватыя ў падзелах Рэчы Паспалітай, бо скарысталі права моцнага супраць слабейшага. Але і Рэч Паспалітая, калі была моцнай дзяржавай, неаднаразова ў пачатку XVII ст. спрабавала захапіць маскоўскі трон, пасадзіўшы на яго спачатку Лжэдзмітрыя I, а потым Лжэдзмітрыя II. Менш за ўсё вярхі думалі пра народы, якія жылі на гэтай зямлі і ў выніку ваенных дзеянняў пераходзілі ад адной дзяржавы да другой.

**Алена ФІЛАТАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі.**

# ФАЛЬКЛОР У ЗАПІСАХ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

### ЦЯЖКА ЖЫЦЬ ПА ПРАЎДЗЕ

*Дзве суседкі абмяркоўваюць навіны:*

*— Учора на праўленні агранома з пасады-здымалі. Ніхто не заступіўся за яго... Усе старшыні падтаквалі.*

*— А я што казала? Проці ветру не плюнеш. За праўду згарэў хлопец!*

*— Ат, лепш бы ён не пачынаў яе шукаць. Такому цяляці ваўка не спаймаці...*

### П'ЯНАЯ «ЛЮБОЎ»...

*Яшчэ адна балючая тэма:*

*— І калі гэта выйдзе закон, каб забараніць алкагалічкам раджаць? Народ звядуць... Толькі ў адной нашай Жэнькі ажно дванаццаць. І ўсе ў спецшколе вучацца...*

*— А дзе ж ім яшчэ вучыцца, калі сабражэння не маюць. З дурнога куста і ягада пуста.*

**Прыслаў Віталь СВІСТУНОВІЧ з вёскі Бажкі Ляхавіцкага раёна.**

### БАЦЬКА З ГУМАРАМ

*Наш бацька — чалавек з гумарам. Зімой і вясной, калі ў нас з братам насмарк, ён, выкарыстоўваючы словы Я. Коласа, кпіць з нас: «А мух, тых мух у хлопцаў у носе». Аднойчы, калі мы добра паспрачаліся, ён сказаў: «Чым мець справу з вамі — лепш забіцца аб шашу». Мне бацькава дасціпнасць падабаецца, я запамінаю яго выразы і пры выпадку буду іх скарыстоўваць.*

**Прыслаў вучань 9-га класа Лёня СЫС з Гомеля.**

### ДЛЯ ГУРКОЎ, НЕ ДЛЯ РАСОЛУ

*Аднойчы дзядзька Мацей купляў у краме бочку з-пад селядцоў. Доўга аглядаў яе, хаця б не цякла. Тут яго сусед расказаў, як адзін бондар, прадаючы свой тавар на кірмашы, гучна крычаў: «Каму бочкі на гуркі!»*

*Адзін пакупнік праз пару тыдняў прыйшоў да майстра сварыцца: «Цячэ твая бочка!»*

*Бондар спакойна адказаў: «Нічога дзіўнага. Я ж прадаваў бочкі на агуркі, а ты наліў расолу».*

*Чуў я і раней прыказку «У нашага Івана (бондара) купіш хіба бочку на агуркі», аднак паходжанне яе зразумеў толькі пасля расказанай гісторыі.*

**Прыслаў Анань ВЕРАБЕЙ з вёскі Чыжаха Бярэзінскага раёна.**




### «КАЎНЕРЫК» ДЛЯ ЯБЛЫНЬКІ

Ці можна «ўгаварыць» пладовае дрэўца парадаваць хоць бы невялікім ураджаем крыху раней? Аказваецца, можна. Для гэтага трэба надзець на яго пластыкавы каўнерык, дакладней — некалькі такіх каўнерыкаў.

Каб хутчэй завязаліся кветкавыя пупышкі, вопытныя садаводы адгінаюць частку атожылкаў, надаючы ім гарызантальнае становішча. Яшчэ лепш адагнуць іх данізу. Адток асіміляваных рэчываў да ствала ўскладняецца, а высокае іх утрыманне ў атожылках дапамагае закладцы і развіццю кветкавых пупышак, з якіх і з'явяцца плады.

### ЗРАБІЎ НЕ ПА СХЕМЕ

Наведваючы дачныя ўчасткі, здзіўляюся: усе градкі зроблены па адной схеме, для ўсіх культур. Але ж адны расліны любяць вільготную глебу, другія — больш сухую...

Я падрыхтаваў спецыяльную градку для вільгацелюбівых культур. Каб не застойвалася вада, зрабіў унізе дрэнаж з галінак. У міжрадкоўі закапаў мох, які валодае бактэрыцыднымі ўласцівасцямі. Мох выдатна акумулюе вільгаць, падпітвае расліны. Паліваю яго растворам драўніннага попелу. Градку абавязкова раблю ніжэй ўзроўню глебы ў садзе на 15 см. Разрыхляюць глебу расселеныя на ёй... дажджавыя чэрві, якіх сам вырошчваю. Проста капаю яму 50×50 см, укладваю туды лісце, крыху макулатуры і пасяляю дажджавых чарвей. Абавязкова падкормліваю іх кухоннымі адходамі. Асабліва інтэнсіўна яны размнажаюцца ад палівання вадой, якая застаецца пасля прамывання мяса...

Калі градка ніжэй узроўню глебы, вельмі зручна прыкрыць яе плёнкай і атрымаць расаднік, цяпліцу, парнік. Тады трэба зрабіць «цёплую» градку. Улажыць слой галінак, сцяблін, лісця, макулатуры, ануч, кампосту, драўніннага попелу. Такая градка «грэе» да пяці гадоў, і прыбаўка ўраджаю на ёй складае 50—70 і больш працэнтаў. Для мульчыравання выкарыстоўваю шматгадовы лубін. Зялёныя часткі яго здрабняю, закопваю вакол раслін, што дае магчымасць нарошчвання слою гумусу. Карані лубіну здрабняю, заліваю вадой 1:3 і настойваю тыдзень.

**Б. ДУХНЕВІЧ, садавод-аматар.**



## Стравы беларускай кухні

### ХАЛАДНІК

500 г маладых буракоў з бацвіннем, 1,5 л бурачнага квасу, 3 свежыя маладыя агуркі, 4—5 маленькіх цыбулін, 4 яйкі, 2—3 сталовыя лыжкі кропу, 1 чайную лыжку зеляніны сельдэрэю, 1 шклянку смятаны, 2—3 чайныя лыжкі солі, 1/4 чайнай лыжкі чырвонага перцу, 5—6 зярнят каляндры.

Буракі ачысціць і адварыць так, каб засталося не менш 2 шклянак бурачнага адвару.

Адвар зліць у асобную пасудзіну. Буракі з бацвіннем дробна нарэзаць. Прыгатаваць рэдкую частку халадніку: бурачны квас закіпяціць, астудзіць і змяшаць з бурачным адварам, у якім папярэдне развесці смятану, і паставіць у халоднае месца.

Прыгатаваць густую частку: да адвараных буракоў дадаць дробна нарэзаныя цыбулю і кроп, перацёртыя з соллю, агурок, нарэзаны саломкай, сельдэрэй, перац, расцёртую каляндру

Злучыць густую і рэдкую часткі, размяшаць. У талеркі з халаднікам пакласці па яйку, зваранаму ўкрутую і разрэзанаму на чацвярцінкі.

### ГРЫБНЫ КВАС

**Грыбны квас —суп, які ўжываецца ў асноўным у халодным выглядзе, а таксама і ў гарачым (зімой). Гатуюць яго на аснове хлебнага кіслага квасу з дабаўленнем чацвёртай часткі вады.**

1,5 л квасу, 7—8 белых сухіх грыбоў, 2—3 цыбуліны, 1 корань пятрушкі, 2—3 сталовыя лыжкі кропу, 1 сталовая лыжка пятрушкі, 0,5 чайнай лыжкі каляндры, 2—3 лаўровыя лісткі, 1 невялікі корань сельдэрэю з зялянінай, 5—6 гарошын чорнага перцу.

Грыбы размачыць на працягу паўгадзіны ў вадзе хатняй тэмпературы ў гліняной ці эмаліраванай пасудзіне, затым здрабніць, дабавіць туды квас, нарэзаць цыбулю, пятрушку, сельдэрэй, закрыць і паставіць на слабы агонь на 1 гадзіну.

Затым дабавіць астатнія прыправы, даць пастаяць 15—20 хвілін на гарачай пліце або ў духоўцы, пасля чаго запраўіць разагрэтай смятанай.

## Парады на ўсякі выпадак

І нявопытны маляр зможа без асаблівых цяжкасцей правесці па сцяне роўную лінію, калі выкарыстае для гэтага пэндзаль з папярочным металічным стрыжнем і лінейку са зрэзаным краем.



Той, каму даводзілася чысціць пыласосам тонкія гардзіны, шторы, фіранкі, ведае, як тканіна шчыльна прыцягваецца паветрам да ўваходнай адтуліны. Ад гэтага можна лёгка пазбавіцца, калі паміж тканінай і пыласосам змясціць тэнісную ракетку ці іншую цвёрдую сетку.





Забіваючы цвік у канец дошкі, ушчыльніце перад гэтым драўніну ў месцы забівання. Для гэтага выкарыстоўваюць прабойнік, які злёгку заглыбляюць ударамі малатка. Гэта абароніць дошку ад растрэсквання.

Трымаць дрыль у строга гарызантальным становішчы цяжка, калі вы робіце адтуліну ў сцяне. Прымацуйце да корпуса дрылі дзвюма палоскамі ліпкай стужкі невялікую грунтвагу (напрыклад, з дзіцячага сталярнага набора) ці бутэлечку, якая яе заменіць. Справа значна спросціцца.





Каб добра адшліфаваць наждачнай паперай круглы драўляны ці пластмасавы стрыжань, зрабіце простае прыстасаванне. У прамавугольным драўляным бруску прасвідруйце дзірку, дыяметр якой адпавядае дыяметру стрыжня, а потым распілуйце брусок на дзве роўныя часткі. Як карыстацца гэтым прыстасаваннем, відаць на малюнку.



## Гаспадыні на заметку

▲ Падстаўкі, якія вы ставіце пад гаршкі з расадай (і, дарэчы, на якіх стаяць гаршкі з пакаёвымі кветкамі), часта пакрываюцца цяжказмываемымі плямамі. Каб пазбавіцца ад іх, апусціце падстаўкі ў слабы раствор воцату, а праз пяць хвілін спаласніце.

**▲ Каб выветрыць з афарбаванага памяшкання пах фарбы, натрыце на тарцы галоўку часнаку і пакіньце яго на некаторы час у гэтым памяшканні.**

▲ Калі вы, зачапіўшыся за цвік ці крук, парвалі шарсцяныя штаны, як найхутчэй пакладзіце латку. Ссуньце як мага шчыльней краі разрыву, падкладзіце пад разарванае месца кавалачак такой жа ці, у крайнім выпадку, вельмі падобнай тканіны, густа змазанай яечным бялком, і прапрасуйце з левага боку гарачым прасам.

**▲ Калі пасля доўгай зімы вы на сваёй дачы выявіце на паверхні газавай пліты іржу, пратрыце яе анучкай, змочанай воцатам.**

▲ Каб фарбаваная падлога заўсёды ззяла, мыйце яе цёплай вадой з нашатырным спіртам. У вядро вады дастаткова дабавіць адну-дзве лыжкі. Содай і мылам не мыйце: фарба пацямнее.

**▲ Пачаў «заядаць» замок? Магчыма, патрэбна змазка. Графітавы парашок, які вы можаце атрымаць, вострачы алоўак, выдатны сродак. Яго засыпаюць у замочную адтуліну з дапамогай папяровай трубкі.**

▲ Каб соль заставалася сухой, пакладзіце ў сальнічку 2—3 рысавыя зярняткі. Яны будуць паглынаць вільгаць.

**▲ Перад работай на зямлі надзеньце гумавыя пальчаткі. А калі іх няма? Скарыстайце нябачныя ахоўныя «пальчаткі» з мыла: рукі добра намыльце і некалькі хвілін пасушыце. Пазногцямі паскрабіце мыла. Пасля заканчэння работы «пальчаткі» змыйце звычайнай вадой.**

